ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

КРАСАВІК, 2013

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

У Камітэце па правах чалавека зарэгістравана чарговая скарга з Беларусі

СТАР. 3

Актывістка змагаецца за сумленныя выбары без Лукашэнкі

СТАР. 8



# Валянцін СТЭФАНОВІЧ:

## У Бруселя няма ніякіх ілюзіяў у ацэнках гэтага рэжыму

***Такую выснову зрабіў намеснік старшыні ПЦ "Вясна" па выніках нядаўняга візіту ў сталіцу Еўразвязу, дзе ён браў удзел у працы канферэнцыі па дыялогу аб мадэрнізацыі Беларусі і меў шэраг працоўных сустрэчаў.***

*"Для "Вясны" як праваабарончай арганізацыі важна, каб перадумовай для аднаўлення дыялогу паміж Беларуссю і Еўразвязам было вызваленне і рэабілітацыя палітычных вязняў. Самая галоўная задача для нас – каб яны выйшлі на волю. І, па-другое, каб яны маглі паўнавартасна ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці краіны. Гэта азначае, што з іх павінна быць знятая судзімасць, якая, паводле закона, шмат у чым абмяжоўвае іх правы, у тым ліку палітычныя", – падкрэслівае праваабаронца.*

Гэтую пазіцыю Валянцін Стэфановіч агучваў у Брусэлі, дзе ён сустракаўся ў прыватнасці з кіраўніком дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Філіпам Качмарэкам і прадстаўнікамі офісу еўракамісара па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства Штэфана Фюле.

Што тычыцца пазіцыі Еўразвязу, то Стэфановіч адзначае, што зараз там існуе трэнд на аднаўленне дыялогу з беларускімі ўладамі. "Яны гавораць, што шмат хто разачараваны тым, што ўжытыя санкцыі не прывялі да вызвалення вязняў, што яны яшчэ больш ізалююць краіну, яшчэ больш накіроўваюць яе ў поле ўплыву Расіі".

"З іншага боку, па выніках візіту ў Брусель я не бачу ніякіх ілюзіяў у ацэнках гэтага рэжыму. Ні ў каго там гэтых ілюзіяў няма. І крэдыт даверу Лукашэнкі і яго атачэння вельмі моцна падарваны пасля 19 снежня 2010 году. Я не думаю, што ў Еўразвязе хтосьці ўсур'ёз спадзяецца на лібералізацыю (ці дэмакратызацыю, ці мадэрнізацыю – як заўгодна гэта можна назваць) палітычнай сістэмы ў Беларусі, якую б праводзілі самі беларускія ўлады", - кажа праваабаронца.

Паводле меркавання Стэфановіча, на бягучы момант Еўразвяз фармулюе асноўную задачу – вызваленне палітычных вязняў і змяншэнне ўзроўню рэпрэсіяў у Беларусі. Напэўна, гэта максімум, якога на сёння можна дамагчыся.

**http://spring96.org**

# Amnesty International:

## Як у Беларусі затыкаюць рот грамадзянскай супольнасці

**Грамадзянская супольнасць Беларусі падвяргаецца рэпрэсіям з боку ўладаў, нецярпімых да любой формы крытыкі. Такая выснова ўтрымліваецца ў дакладзе "Што не дазволена, тое забаронена: Як у Беларусі затыкаюць рот грамадзянскай супольнасці", апублікаваным Amnesty International 18 красавіка.**

Аўтары дакладу паказваюць, як беларускія ўлады абмяжоўваюць свабоду сходаў, свабоду аб'яднанняў і свабоду слова, перашкаджаючы грамадзянам публічна выказваць меркаванне, праводзіць маніфестацыі і ствараць некамерцыйныя арганізацыі (НКА). Удзельнікам мірных дэманстрацый нярэдка пагражаюць не толькі штрафы, але і турэмныя тэрміны.

"На працягу апошніх 20 гадоў улады Беларусі ўсё больш душылі грамадзянскую супольнасць, пазбаўляючы людзей магчымасці выказваць сваё меркаванне, удзельнічаць у грамадскіх абмеркаваннях палітычнага курсу краіны і - у канчатковым выніку - кантраляваць дзеянні чыноўнікаў", - заявіла Хэза Макгіл, даследчык Amnesty International па Беларусі.

Даклад Amnesty International аналізуе заканадаўства краіны ў частцы правоў грамадзян на мірны пратэст і свабоды аб'яднанняў, дакументуючы парушэнні, з якімі сутыкаюцца праваабаронцы, прафсаюзы, абаронцы навакольнага асяроддзя і актывісты ЛГБТ.

Грамадзяне, якія спрабуюць зарэгістраваць незалежныя НКА, сутыкаюцца з заканадаўчымі перашкодамі і бюракратычнай самаўпраўнасцю, скіраванымі на далейшае падаўленне свабоды аб'яднанняў. Дзейнасць праваабаронцаў без рэгістрацыі НКА цягне ганенні на дзейнасць ад імя "незарэгістраванай арганізацыі".

**(працяг на 2 стар.)**

# Amnesty International: Як у Беларусі затыкаюць рот грамадзянскай супольнасці

У Беларусі з 2000-га года не была зарэгістравана ніводная палітычная партыя, паколькі ўмовы рэгістрацыі з'яўляюцца празмернымі, а незалежныя прафсаюзы сутыкаюцца з дыскрымінацыяй з боку кіраўніцтва прадпрыемстваў.

У 2011-м годзе Алесь Бяляцкі, вязень сумлення і старшыня

Amnesty International: Як у Беларусі затыкаюць рот грамадзянскай супольнасці (пачатак на стар. 1)

праваабарончага цэнтра "Вясна", пазбаўленага афіцыйнай рэгістрацыі ў 2003-м годзе, быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі. Падставай для гэтага стала наяўнасць у яго асабістых банкаўскіх рахункаў у Польшчы і Літве. Імі, па заключэнні следства, ён карыстаўся для фінансавання праваабарончага цэнтра. Між тым праваабаронца быў пазбаўлены магчымасці адкрыць банкаўскі рахунак для гэтых мэтаў у Беларусі.

Алег Стахаевіч, вадзіцель самазвала, які працаваў у Рэспубліканскім унітарным вытворчым прадпрыемстве "Граніт" (РУВП "Граніт"), быў абраны кіраўніком заснаванага ў снежні 2011-га года незалежнага прафсаюза. У адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі, працоўныя апавясцілі адміністрацыю РУВП "Граніт" аб стварэнні прафсаюзнай арганізацыі і з гэтай мэтай папрасілі даць юрыдычны адрас. Кіраўніцтва прадпрыемства адказала адмовай і пагрозамі. Неўзабаве Алег Стахаевіч быў звольнены з фармулёўкай "неадпаведнасць работніка займаемай пасадзе або выконваемай працы з прычыны недастатковай кваліфікацыі". На цяперашні час з прадпрыемства звольненыя чатыры сябры незалежнага прафсаюзу, многія іншыя спынілі сваё сяброўства з боязі страціць працу.

Калі ў 2003-м годзе беларускія прыхільнікі Amnesty International паспрабавалі зарэгістравацца ў якасці міжнароднай арганізацыі, улады заявілі ім, што рэгістрацыя немагчымая ў сувязі з планамі выкарыстання імі афіцыйнай сімволікі руху. У 2005-м годзе пры паўторнай спробе рэгістрацыі прадстаўнікі ўладаў заявілі, што дазвол будзе атрыманы, калі прыхільнікі Amnesty International будуць узгадняць дзейнасць арганізацыі з уладамі. З-за боязі страціць незалежнасць, прыхільнікі Amnesty International былі вымушаныя адмовіцца ад ідэі афіцыйнай рэгістрацыі.

На працягу многіх гадоў Amnesty International дакументуе шматлікія арышты і затрыманні ўдзельнікаў няўзгодненых дэманстрацый, прычым некаторыя з іх падвяргаліся збіццю з боку міліцыі. У час штотыднёвых "маўклівых пратэстах" у 2011-м годзе міліцыя ўжывала гвалт і адміністратыўныя затрыманні пры разгоне дэманстрантаў, якія не скандавалі лозунгаў, а выражалі пратэст праз апладысменты.

Найбуйнейшая за нядаўнюю гісторыю краіны акцыя пратэсту, якая адбылася ў снежні 2010-га года пасля выбараў прэзідэнта, была разагнаная з беспрэцэдэнтнай жорсткасцю. Сілы правапарадку затрымалі ў цэнтры Менска больш за 700 чалавек, у тым ліку назіральнікаў. Многія з іх былі збітыя і параненыя. Чатыры вязні сумлення, Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Эдуард Лобаў і Зміцер Дашкевіч, да гэтага часу пазбаўленыя волі па справе аб масавых пратэстах.

Закон аб масавых мерапрыемствах парушае правы беларусаў на мірны пратэст.

*"Нават адзіночны пікет згодна з законам аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца парушэннем. Дэманстрантаў можна пераследваць за ўдзел у адзіночных пікетах, можна нават штрафаваць за "публічнае дарэнне", - расказала Хэза Макгіл.*

Удзельнікаў мірных акцый пратэсту нярэдка прысуджаюць да штрафаў і кароткатэрміновых арыштаў за парушэнне закона аб масавых мерапрыемствах і нязначныя нібыта меўшыя месца парушэнні, напрыклад, нецэнзурную лаянку. Павел Вінаградаў, сябра моладзевага палітычнага руху "Змена", за перыяд з 30 снежня 2011-га па 12 снежня 2012-га года правёў у зняволенні ў агульнай складанасці 66 сутак. Яго восем разоў прыгаворвалі да адміністратыўнага арышту, абвінавачваючы ў нязначных парушэннях, уключаючы нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы і парушэнне правілаў правядзення масавых мерапрыемстваў.

*"Улады Беларусі павінны забяспечыць свабоду выказвання меркавання грамадзянамі і пакласці канец палітычным рэпрэсіям. Для гэтага ўладам трэба перагледзець указы прэзідэнта і законы, якія тычацца рэгістрацыі і дзейнасці НКА. Неабходна, каб чыноўнікі паважалі права грамадзян на свабоду аб'яднанняў і свабоду сходаў", - заявіла Хэза Макгіл.*

**http://spring96.org**

# Пікеты памяці зніклага Юрыя Захаранкі

У Гомелі ўзгадаюць зніклых палітыкаў. Каля 20 заявак на пікеты было пададзена ў мясцовыя органы ўлады па ўсёй Гомельскай вобласці. Ініцыятары правядзення акцый плануюць нагадаць грамадству пра свайго земляка -- зніклага міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранку.
Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіль Палякоў зазначае, што амаль за 14 год з моманту гвалтоўнага выкрадання генерала так і не зрушылася следства.
- Такая масавая падача заявак на правядзенне пікетаў можа звярнуць увагу на існую праблему. У Беларусі некалькі вядомых палітыкаў зніклі пасярод белага дня. Але дагэтуль няма ніякіх зрухаў па гэтых крымінальных справах.
Юрый Захаранка нарадзіўся ў мястэчку Васілевічы, што на Гомельшчыне. У часе сваёй кар'еры ў органах унутраных справаў ён паспеў папрацаваць следчым у Светлагорску і Гомелі. У 1994 годзе быў прызначаны міністрам унутраных справаў у званні генерал-маёра. Але ўжо ў канцы 1995 года Аляксандр Лукашэнка адправіў Юрыя Захаранку ў адстаўку за сувязі з апазіцыяй. У траўні 1999 года Юрый Захаранка быў выкрадзены невядомымі ў раёне вуліцы Жукоўскага ў Менску.

### Аб кампаніі «За сумленныя выбары без Лукашэнкі» даведаюцца ў ААН

*Вярхоўны суд адмовіў гомельскім актывістам Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) прынесці пратэст на рашэньні ніжэйстаячых судоў аб забароне ў абласным цэнтры серыі пікетаў "За сумленныя выбары без Лукашэнкі". Прайшоўшы ўсе ўнутраныя сродкі прававой абароны, партыйныя актывісты звяртаюцца ў Камітэт па правах чалавека ААН.*

*Нагадаем, з мэтай актуалізацыя праблемы адсутнасці ў Беларусі свабодных і сумленных выбараў, інфармаванне грамадзян аб кампаніі «За сумленныя выбары без Лукашэнкі» 15 мая 2012 года ў Гомелі і раённых цэнтрах у найбольш шматлюдных месцах павінна была адбыцца цэлая серыя пікетаў. Гарадскія чыноўнікі забаранілі 24 заяўленых мірных сходаў у Гомелі і яшчэ 7 у раёнах, матывуючы сваё «табу» адсутнасцю дамоваў з міліцыяй, медыкамі і камунальнымі службамі на абслугоўванне мерапрыемстваў.*

*У прыватнасці, аднаму з падпісантаў скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН Уладзіміру Шыцікаву пікет ля Давыдаўскага рынку ў Гомелі забаранілі ў сувязі з тым, што «няправільна выбрана месца масавага мерапрыемства». У абласным цэнтры вызначана толькі адно месца, дзе можна праводзіць масавыя мерапрыемствы - пляцоўка ля Палаца культуры глухіх. Акрамя таго, пенсіянер не заплаціў са сваёй пенсіі міліцыі, медыкаў і камунальным службам.*

*Актывісты просяць ААН не толькі прызнаць факт парушэння іх правоў на свабоду мірных сходаў і выказванне меркавання, але ж яшчэ прызнаць закон "Аб масавых мерапрыемствах" і адпаведнае мясцовае рашэнне супярэчным міжнародным дамовам нашай краіны.*

**http://gomelspring.org/**

# У Камітэце па правах чалавека зарэгістравана чарговая скарга з Беларусі



*У Камітэце па правах чалавека ААН зарэгістравана скарга каардынатара моладзевай сеткі прафсоюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Андрэя Стрыжака. Лідэр моладзевай сеткі незалежнага прафсаюзу скардзіцца на чыноўнікаў Рэчыцы, якія ў дзень незалежнасці таго года забаранілі яму правесці ў раённым цэнтры пікет, на якім прафсаюзны актывіст планаваў з'вярнуць увагу сваіх зямлякоў на сітуацыю з становішчам незалежнага прафсаюзнага руху ў краіне.*

У якасці прычыны адмовы мясцовыя ўлады паказалі невыкананне патрабаванняў рашэння райвыканкама аб масавых мерапрыемствах: да заявы не былі прыкладзеныя дамовы з аддзелам унутраных спраў аб ахове грамадскага парадку, з медыкамі - пра медабслугоўванні падчас правядзення пікету, а з камунальным прадпрыемствам - аб забеспячэнні ўборкі тэрыторыі пасля масавага мерапрыемства.

Андрэй Стрыжак лічыць прычыны, па якім рэчыцкі райвыканкам забараніў яму правесці мірны сход у Дзень незалежнасці краіны абсурднымі.

"Я лічу, што ўскладанне на аргінізатараў мірных сходаў дадатковых абавязкаў па заключэнню платных дамоваў ёсць не што іншае, як знішчэнне з боку ўлады самай сутнасці права на мірны сход. Таксама лічу, што гэта не адпавядае тым абавязкам, якія наша краіна ўзяла Міжнародным Пакта аб грамадзянскіх ды палітычных правах", - распавёў gomelspring.org лідэр моладзевай сеткі незалежнага прафсаюзу.

У індывідуальным паведамленні Андрэй Стрыжак просіць Камітэт ААН па правах чалавека прызнаць парушэнне Рэспублікай Беларусь правоў на свабоду выказвання меркавання і свабоду мірных сходаў, рэкамендаваць Ураду Беларусі прывесці нормы нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі дамовамі па правах чалавека, а таксама змяніць закон "Аб масавых мерапрыемствах" у адпаведнасці з Міжнародным пактам аб грамадзянсіх ды палітычных правах і заключэннем Венецыянскай камісіі.



# У Гомелі заяўлены пазоў пра маральную шкоду ў сувязі з невыкананнем рашэння Камітэта ААН па правах чалавека

**Леанід Судаленка падаў у суд Цэнтральнага раёна Гомеля пазоў да казначэйства аб кампенсацыі маральнай шкоды, якую ацэньвае заробкам дэпутата парламента за чатыры гады паўнамоцтваў. Падставай да такога патрабавання паслужыла адмова чыноўнікаў выканаць рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, у якім устаноўлены шматлікія факты парушэння яго правоў з боку дзяржавы.**

Нагадаем, падчас выбараў дэпутатаў так званага парламента ў 2004 годзе праваабаронца сабраў неабходную колькасць подпісаў выбаршчыкаў, тым не менш, выбарчыя камісіі адмовіліся рэгістраваць яго кандыдатуру. І ў акруговай і ў Цэнтральнай выбарчай камісіі палічылі, што юрыст няправільна паказаў месца сваё працы. Вярхоўны суд падтрымаў высновы выбаркамаў, пасля чаго скарга не адбыўшагася народнага выбранніка стала прадметам разгляду ў Камітэце па правах чалавека.

**(працяг на 4 стар.)**

**У Гомелі заяўлены пазоў пра маральну шкоду ў сувязі з невыкананнем рашэння Камітэта ААН па правах чалавека**
(пачатак на стар. 3)

У 2010 годзе міжнародныя эксперты прыйшлі да высновы, што ў дачыненні да аўтара скаргі дапушчаныя парушэнні яго правоў прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных спраў шляхам абрання на выбарах, а таксама ўсталявалі прымяненне да яго дыскрымінацыі па палітычных матывах. Камітэт абавязаў Беларусь даць аўтару эфектыўны сродак прававой абароны, уключаючы кампенсаванне, а таксама разглядаць любыя будучыя хадайніцтва аб яго вылучэнні кандыдатам у дэпутаты пры поўным выкананні палажэнняў Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Леанід Судаленка лічыць, што прыйшоў час патрабаваць ад дзяржавы выканання прымаемых на міжнародным узроўні рашэнняў у дачыненні да Беларусі, так як назапасілася дастатковая колькасць рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН, у якіх устаноўлены тыя ці іншыя парушэнні правоў беларускіх грамадзян, гарантаваных міжнароднымі абавязацельствамі краіны.

"На жаль, нашы чыноўнікі гэтыя рашэнні лічаць як не маючых абавязковага для выканання характару. Іншымі словамі сёння чыноўнікі дзейнічаюць па прынцыпе - правы нашай краіны на міжнародным узроўні забяспечвайце, а вось адказнасці краіна не будзем несці ніякай", - канстатуе праваабаронца.

*"Судовая практыка пакуль не ведае практыкі падобных іскаў, таму цяжка прадбачыць, як да яго паставіцца суд. У любым выпадку, рана ці позна ўсё гэтыя рашэнні ў дачыненні да беларускіх грамадзян будуць выкананыя, таму каму-та трэба сёння гэтую пачынаць працу", - рэзюмаваў юрыст.*

**http://gomelspring.org/**

# Актывістка АГП з пікетам «За сумленныя выбары без Лукашэнкі» дайшла да ААН

*Прайшоўшы ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі з абскарджаннем забароны Рэчыцкім райвыканкамам пікета "За сумленныя выбары без Лукашэнкі", сябра АГП Наталля Шчукіна звярнулася са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека.*

Пікет быў заяўлены на 15 мая 2012 года ў рамках акцыі АГП, якая праводзіцца па ўсёй Беларусі. Рэчыцкі райвыканкам адмовіў тады ў яго правядзенні, спаслаўшыся на невыкананне прыдуманых самім жа райвыканкамам патрабаванняў - адсутнасць дамоваў з міліцыяй, раённай бальніцай і камунальнікамі.

Нацыянальныя суды, якія працуюць у рэжыме ручнога кіравання таксама апынуліся нямоглымі, каб дапамагчы актывістцы ў рэалізацыі правоў на свабоду слова і свабоду мірных сходаў.

У сваім індывідуальным паведамленні Наталля Шчукіна просіць Камітэт ААН па правах чалавека прызнаць парушэнне Рэспублікай Беларусь правоў на свабоду распаўсюду інфармацыі і свабоду мірных сходаў, рэкамендаваць Ураду Беларусі прывесці нормы нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі дамовамі па правах чалавека, а таксама змяніць закон "Аб масавых мерапрыемствах ў Рэспубліцы Беларусь" у адпаведнасці з Міжнародным пактам аб грамадзянсіх ды палітычных правах і заключэннем Венецыянскай камісіі.

**www.ucpb.org**

